● ВЫБІРАЕМ ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН

## УСПОМНІ СВАЮ МІСІЮ, КАМІСІЯ!

ЗОЯ МІКУЛІЧ.

**Я ПАМЯТАЮ, як у свой час вялося актыўнае абмеркаванне прадстаўленых на конкурс і апублікаваных у друку варыянтаў будучага Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Адны выказваліся за «Пагоню», другія—за «Магутны Божа», трэція—за «А хто там ідзе?». Але ў большасці сваёй абмяркоўцы ўсё ж схіляліся да таго, што ніводны з прапанаваных варыянтаў не можа быць прыняты ў якасці Дзяржаўнага гімна.**

**Як мне вядома, камісія, улічыўшы шматлікія пажаданні, прадоўжыла конкурс (калі не памыляюся, да 1 снежня г. г.). Пэўна ж. гэта рабілася з мэтай, каб свае сілы ў стварэнні гімна паспрабавалі новыя творцы. І я не сумняваюся, што такія знайшліся. Але чаму маўчыць камісія! Няўжо, апёкшыся адзін раз, яна вырашыла болей не рызыкаваць, а прыняць рашэнне аб гімне за зачыненымі дзвярыма! Калі гэта так, то маўчанне камісіі зразумелае. А калі не—то чаму да гэтага часу не апублікаваны ў друку і не прагучалі па радыё новыя варыянты гімна, прадстаўленыя на конкурс пасля яго прадаўжэння!**

**Думаю, зрабіць гэта варта абавязкова, глядзіш—якраз той ці іншы твор і знойдзе падтрымку ў народа. Так што падумайце над гэтым. Ведайце, што мы ўжо зачакаліся...**

## НАС КЛІЧА П'ЕДЭСТАЛ...

АЛЯКСАНДР КАВАЛЬСКІ, настаўнік.

КАЛІ на чэмпіянатах свету ці Еўропы спартсмен узыходзіць на вышэйшую прыступку п'едэстала—у яго гонар узнімаецца сцяг роднай краіны і гучыць Дзяржаўны гімн. Не ведаю, як каго, а мяне гэта заўжды ўзрушвае. Ды і спартсменаў, не сумняваюся, таксама. Многія ж балельшчыкі, думаю, і пасёння памятаюць, як цяклі слёзы радасці па шчоках Ірыны Радніной. Або хто з нас не бачыў: гучыць гімн перад пачаткам футбольнага матча—і яго спявае ўся каманда.

Неўзабаве пачнецца новы сезон, і наша рэспубліка будзе ўдзельнічаць у многіх сусветных і еўрапейскіх спаборніцтвах сваёй уласнай камандай. Упэўнены, будуць у нас і свае чэмпіёны. Але ж, ці прагучыць у іх гонар гімн? А так бы хацелася. Бо ён і натхняе, і яднае спартсменаў, а заадно і нас, балельшчыкаў. Бо перамога—гэта не толькі залаты медаль, а і гонар за сваю дзяржаву. Дык хай жа часцей узнімаецца на флагштоку наш родны бел-чырвона-белы сцяг і гучыць гімн суверэннай Беларусі!

Калі ён толькі загучыць? Няўжо і ў новы год мы ўступім, не маючы свайго гімна?

## НЕ СПРОШЧАНЫ, АЛЕ ПРОСТЫ

НАТАЛЛЯ ПАТАПЧУК.

**Я ЎВАЖЛІВА сачыла за друкам, калі ішло абмеркаванне прадстаўленых на конкурс варыянтаў Дзяржаўнага гімна. Старалася не прапусціць ніводнай публікацыі ў «Народнай газеце», «Звяздзе», «ЛіМе», «Добрым вечары» (гэта тыя выданні, якія я выпісваю сёлета і на якія, дарэчы, падпісалася на новае паўгоддзе).**

**Сёння я вырашыла выказаць на гэты конт і свае думкі. Якім усё ж павінен быць наш будучы гімн! Не ведаю, ці пагодзяцца са мной тыя, каму вырашаць яго лёс, аднак мне здаецца, што і словы, і музыка гімна павінны быць даступнымі кожнаму жыхару рэспублікі. Не трэба спрошчанасці, легкаважнасці, але прастата—абавязковая ўмова, каб гімн дайшоў да сэрцаў людскіх.**

**Што датычыць тэксту, то ў ім абавязкова павінны прысутнічаць сімвалы нашай дзяржавы—бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», шчырыя словы пра родны кут, заклік да яднання ўсіх, хто жыве і працуе на зямлі нашай. А паколькі мы вяртаемся да веры продкаў, то, думаю, не пашкодзіць гімну (хутчэй—наадварот) і слова пра Бога. Як сімвал гэтай веры.**

**Калі б нехта стварыў такі гімн, то ён абавязкова б быў успрыняты грамадзянамі Беларусі. Веру, што так і будзе. Хіба шкадую, што сама не пішу ні вершаў, ні музыкі. Няхай гэта зробяць іншыя. На радасць усім нам.**

# ФУТБОЛЬНЫ КЛУБ

ВЫПУСК № 14

## ПА САКРЭТУ З УСЯГО СВЕТУ



Вядучы ІВАН КАХНОВІЧ. Фотаілюстрацыі ЮРЫЯ ЗАХАРАВА І СЯРГЕЯ БРУШКО.

### РАСІЯ

**Віктар Анопка — лепшы футбаліст сезона.** Так лічаць галоўныя трэнеры расійскіх каманд вышэйшай лігі. Удакладняем гэта, бо наперадзе яшчэ апытанне штотыднёвіка «Футбол» сярод журналістаў, якія, дарэчы, не заўсёды згодныя з меркаваннем настаўнікаў. Як, між іншым, было летась, калі трэнеры прызналі лепшым Васіля Кулькова, а пішучая брацця — Ігара Калыванава.

Анопку (у яго 38 ачкоў) «успомнілі 15 з 20 апытаных, у тым ліку 9 «паставілі» на першае месца. На другім — Ігар Лядзяхаў (28 ачкоў), на трэцім — Дзмітрый Радчанка (17 ачкоў). Далей па ранжыру размеркаваліся Андрэй Пятніцкі, Станіслаў Чарчэсаў, Валерый Карпін. Усе яны — з маскоўскага «Спартака» (такога даўно не было!). У «дзесятку» ўвайшлі таксама маскоўскія дынамаўцы Вэлі Касумаў і Амары Тэтрадзе (па 3 ачкі), Алег Верацэннікаў з «Ротара», Андрэй Мананнікаў з «Зеніта» і Юрый Мацвееў з «Уралмаша» (па 2 ачкі). Сярод семнаццаці названых футбалістаў ёсць і добра нам вядомы варатар зборнай Беларусі і ніжнегародскага «Лакаматыва» Валерый Шанталосаў. Ён набраў 1 ачко. Цікава, што ўспомніў пра яго не «родны» трэнер Валерый Аўчыннікаў, а растаўчанін Энвер Юлгушаў. Дарэчы, не ведаю, з якіх крытэрыяў зыходзілі журналісты «Футбольнага кур'ера», што праводзілі апытанне, калі паставілі Шанталосава на апошняе, семнаццатае месца. Хаця ў Міхаіла Валодзіна, варатара самарскіх «Крылаў Саветаў», якога назваў таксама толькі адзін —«уласны» трэнер Анціховіч — трынаццатае месца...

**Трэнерскі лёс — незайздросны.** За сезон дзесяць каманд вышэйшай лігі змянілі сваіх настаўнікаў. Гэта роўна палова. Апошняй «стратай» стаў знакаміты Канстанцін Бескаў, які ўжо не ўзначальвае маскоўскі «Асмарал».

**Не збыліся надзеі маскоўскіх армейцаў «пагрэцца» ў сонечнай Іспаніі.** Як вядома, яны спасаліся на дрэннае расійскае надвор'е, паскардзіліся ва УЕФА і папрасілі перанесці гульні ў Еўропу. Там прапанавалі на выбар 4 гарады ў Германіі. Аднак ЦСКА, аказваецца, вельмі любіць Іспанію, тым больш, што пасля перамогі над «Барселонаю» ў іх там з'явілася мноства прыхільнікаў (накшталт заклятага ворага «Барсы»— мадрыдскага «Рэала»). Аднак паўтарыць шлях аркестра Уладзіміра Співакова армейцам не ўдасца. Не згадзіўся іх першы сапернік — «Глазга Рэйнджэрз». Ганарлівыя шатландцы вырашылі паказаць свой нораў. Таму прыйдзецца «мясіць» бруд у Германіі, дзе, будзем шчырымі, зімовыя ўмовы не нашмат лепшыя, чым на маскоўскім стадыёне «Тарпеда».

А па правілах УЕФА, дзе згуляў першы матч — там згуляеш і астатнія. Так што «плакала» Іспанія.

**Неўтаймаваныя варатары.** Дзмітрыю Харыну толькі 24 гады, але ён паспеў ужо згуляць за тры маскоўскія клубы — «Тарпеда», «Дынама», ЦСКА. І вось цяпер галкіпер разам з жонкаю і сынам адпраўляецца ў Англію, дзе будзе выступаць за клуб «Чэлсі». Кантракт заключаны на тры з паловаю гады.

А Андрэй Мананнікаў, які напрыканцы мінулага сезона абараняў вароты «Зеніта», здаў ключы ад службовай кватэры і з рэчамі рушыў у Валгаград. І сапраўды, каму ахвота гуляць у камандзе, якая вылецела з вышэйшай лігі? А ў «Ротары» калектыў падбіраецца вельмі нядрэнны, дый плацяць няблага, вырашыў варатар.

**«Кікбоксінг».** Калі размова зайшла пра «Зеніт», то трэба сказаць, што легіянеры там не затрымаліся. Як вы памятаеце, напэўна, летам з Душанбе ў Санкт-Пецярбург перабраліся спачатку Мананнікаў і Манасян. Праўда, праз паўмесяца апошні «збег», а на замену прыехаў Алімджан Рафікаў, які зрэшты цяпер таксама пакінуў каманду. Гэта здарылася пасля таго, як «Зеніт» прайграў ключавую гульню ў Варонежы і практычна страціў шанцы на тое, каб застацца ў вышэйшай лізе, раз'юшаны прэзідэнт клуба Уладзіслаў Гусеў зрабіў камандзе «разгон» у прыбіральні. Меў, пэўна, ён прэтэнзіі і да Алімджана. Аднак адна справа «чахвосціць» сваіх, і зусім іншая—іншаземца. Рафікаў доўга не слухаў і ў адказ паслаў прэзідэнта ў накдаўн...

### УКРАІНА

Галоўныя навіны — Анатоль Канькоў не зацверджаны на пасадзе трэнера зборнай, а Анатоля Пузача «папрасілі» з кіеўскага «Дынама».

Калі канфлікт першага са старшынёй федэрацыі Віктарам Баннікавым завяршыўся адхіленнем Канькова і зацвярджэннем Алега Базілевіча, то ў другім выпадку пакуль — невядомасць. Безумоўна. Пузач «сядзеў» на парахавой бочцы, але выкінулі яго ў лепшых савецкіх традыцыях. Тэрмінова сабралі сход каманды (без галоўнага трэнера), дзе паведамілі, што да заканчэння першага круга першынства кіраваць ёй будзе Ёжэф Саба—начальнік каманды. Кажуць, калі аб'яўлялі гэтае рашэнне, другі трэнер Віктар Колатаў падняўся з месца і пайшоў. Пры гэтым сказаў, што ён, як бачна, гэтак жа, як і Пузач, не патрэбен. Толькі пасля заканчэння сходу Пузачу пазванілі дамоў і паведамілі пра «адстаўку».

Хто ў прэтэндэнтах на ўладу? Як павялося на Украіне, аб'яўлена, што, маўляў, будзе конкурс (памятаеце, пра аналагічны — калі шукалі трэнера зборнай?). У кулуарах называюць імёны прэтэндэнтаў — Міхаіла Фаменкі, Леаніда Бурака, Ёжэфа Саба, Віктара Пракапенкі, Алега Блахіна, Валерыя Няпомнячага. Кажуць, што быццам бы Валерый Лабаноўскі «рэкамендуе» Уладзіміра Верамеева. Цікава, калі прыйдзе час, ці паведамяць кандыдатам аб іх прэтэндэнстве?

А тым часам «суровы Ёжэф» наводзіць парадкі — у камандзе з'явіліся маладыя Белкін і Мізін з «Дынама-2», якія адразу трапілі ў аснову. Як вядома, Саба вельмі крытычна ацэньвае гульню сённяшніх лідэраў «Дынама»— Цвейбы, Лявоненкі і іншых.

А яшчэ адзін з кіеўскіх «прымадоннаў», Алег Саленка, спрабуе ўладкавацца ў Англіі. Клуб «Тотэнхэм Хотспур» рызыкуе заключыць з ім кантракт. Праўда, як многія памятаюць па эпапеі Ігара Гурыновіча, гэты дакумент не гарантуе працаўладкавання. Бо брытанскія законы суровыя, і трэба яшчэ, каб даў дазвол прафсаюз, які пільна сочыць за «якасцю» ангажуемага «тавару»— трэба мець імя, і пэўную колькасць гульняў за зборную сваёй краіны. Кажуць, што ў Кіеве для Саленкі выпісалі вельмі лагодныя характарыстыкі.

### ЕЎРАКУБКІ

Як вядома, 25 лістапада — новы этап розыгрышу. Адбыліся гульні Лігі чэмпіёнаў і 1/8 фіналу Кубка УЕФА. У гэтых турнірах таксама ёсць лідэры — сярод бамбардзіраў. Нагадаем іх.

**Кубак чэмпіёнаў:** Рамарыа (ПСВ «Эйндховен», Галандыя) і Тулiё («Сьён», Швейцарыя)— па 4 мячы. Па 3 галы, сярод іншых, маюць на сваім рахунку Астаф'еў са «Сконта» (Рыга) і Карсакоў з ЦСКА.

**Кубак Кубкаў:** Раш («Ліверпуль», Англія)—5. Па 4 забілі Крысценсен (Орхус», Данія), Юрый Нікіфараў («Чарнамарац»), Пятніцкі («Спартак», Масква), Руфер («Вердэр», Германія).

**Кубак УЕФА:** Бацікль («Осер», Францыя), Вітэчэк («Кайзерслаўтэрн», Германія) і Фансека («Напалі», Італія)— усе па 6 мячоў. Па 5 разоў вызначыліся Веа («Пары Сен-Жэрмен», Францыя) і Ебоа («Айнтрахт», Германія),

### АРМЕНІЯ

Тут закончылася першынство краіны, аднак чэмпіён пакуль не вызначаны. Дзве каманды — «Шырак» з Гюмры і «Аменыд» з Ерэвана — набралі аднолькавую колькасць ачкоў, і паміж імі прызначана дадатковая гульня. А што «Арарат»? Ён не трапіў нават у прызёры і фінішаваў чацвёртым.

Лепшымі бамбардзірамі сталі Ваге Ягмуран («Арарат»)— 38 галоў, Ашот Барсегян («Бананц», Катайкскі раён)—34, Карэн Маркасян («Арарат»)— 29.

Нядаўна сярод балельшчыкаў, спецыялістаў і журналістаў было праведзена апытанне з мэтаю вызначыць лепшага футбаліста Арменіі ўсіх часоў. Ганаровы тытул дастаўся заслужанаму майстру спорту, цяпер галоўнаму трэнеру нацыянальнай зборнай — Эдуарду Маркараву (цяпер Маркарану). Ён набраў 715 ачкоў. На другім месцы дзеючы футбаліст, іграючы трэнер «Аменыдмена» — Харэн Аганесян —622 ачкі. Трэці — настаўнік «Звартноца» з Эчміадзіна Аркадзь Андрэасян —616. Называліся таксама С. Авівян, А. Заназян, М. Семерджан, А. Абрамян, С. Зацікян, А. Кегеян, Л. Іштаян.

### ШВЕЦЫЯ

Па-ранейшаму «на кані», нягледзячы на свае 34 гады, былы кіяўлянін Вадзім Еўтушэнка. Самым актыўным чынам ён дапамог уласнаму клубу АІК заваяваць чэмпіёнскае званне. Больш таго, Вадзіму ўсяго толькі два галы не хапіла, каб стаць «каралём бамбардзіраў» у Швецыі. Пэўна, што ў АІКу Еўтушэнка з 14 мячамі — лепшы снайпер.

### КЫРГЫЗСТАН

Тут першынство таксама закончылася. Чэмпіёнам, як і меркавалася, стала бішкекская «Алга». На другім месцы з адрывам у сем ачкоў «Дастук» з Сакулука. Лепшым бамбардзірам стаў Ігар Сяргееў з «Дастука», які забіў 28 галоў.

Дарэчы, кыргызы падалі цікавы прыклад рашэння эканамічных праблем. Зрабілі яны проста: абралі старшынёй Федэрацыі футбола міністра эканомікі і фінансаў Кыргызстана Мураліева. У выніку міністр-старшыня зрабіў значныя падатковыя паслабленні для гаспадарчай дзейнасці клубаў, чым даў ім магчымасць з надзеяй глядзець у будучыню.

### УЗБЕКІСТАН

«Чэмпіёнаў вызначылі, а мацнейшай каманды не выявілі»,— так кажуць пра сёлетні чэмпіянат рэспублікі. І сапраўды: дзве каманды — ташкенцкі «Пахтакор» і ферганскі «Нефтчы»— набралі па 51 ачку. Згодна з рэгламентам, трэба было праводзіць дадатковую гульню. Аднак на пасяджэнні бюро федэрацыі футбола, дзе абмяркоўвалі, як правесці гэту сустрэчу, начальнік «Нефтчы» Леанід Вахцін прапанаваў аб'явіць чэмпіёнамі абедзве каманды. Прадстаўнік «Пахтакора» не стаў пярэчыць — і на гэтым пагадзіліся астатнія. А трэцім у першынстве была «Сагдзіяна» з Джызака.

Лепшымі бамбардзірамі сталі Валерый Кечынаў з «Пахтакора»— 24 галы і Рустам Абдулаеў з «Цемірйыўлчы» (Каканд) — 18. Цікава, што ў двух апошніх турах ташкенец забіў аж сем мячоў (ледзь не трэць ад агульнай колькасці за сезон), а яго візаві — толькі адзін...

### АЗЕРБАЙДЖАН

Яшчэ больш цікавыя трукі адбываліся ў першынстве гэтай краіны. Тут да апошняга сярод бамбардзіраў лідзіраваў Назім Аліеў з сумгаіцкага «Хазара», на рахунку якога было 39 галоў. Але ў сустрэчы «Кяпаза» з Гянджы супраць джалілабаскага «Умуда» нападаючы гаспадароў Мехман Алахвердыеў забіў... 10 (!!!) мячоў і дагнаў лідэра. На рахунку Саміра Алякберава з «Нефтчы»—34 трапныя ўдары.

А прызёрамі першынства сталі, адпаведна, «Нефтчы» (Баку), «Хазар» (Сумгаіт) і «Туран» (Тауз).

### ТУРКМЕНІСТАН

Як ні дзіўна, першынству рэспублікі яшчэ не паспелі прысвоіць імя Сапармурада Ніязава. Пэўна, не было хадайніцтва ад футбалістаў, гэта ж не вайсковая дывізія — там прасцей. Зрэшты, гэта жарт, а калі сур'ёзна, то чэмпіянат у самай «квітнеючай» краіне СНД таксама закончыўся перамогай найбольш тытулаванага клуба—ашгабатскага «Капетдага». Вынікі яго ўражваюць: у 26 сустрэчах—25 перамог і адно паражэнне (2 матчы з-за пераносаў не былі згуляны). Забіта 127, прапушчана 6 мячоў. Ледзь не па 5 галоў у сустрэчы забівалі — во выніковасць! Праўда, гулялі ў чэмпіянаце каманды самыя розныя — калгаса, саўгаса, сельгастэхнікума і г. д. Апошні, «Умід» з Байрам-Алі, набраў толькі 3 ачкі за сезон. Дзве каманды прапусцілі па 122 галы ў чэмпіянаце— таксама трэба ўмець. Асабліва калі ўлічыць, што забілі яны па 26 мячоў. Цікава, што і ў Туркменію ўкараніўся небезвядомы «МАЛС». Тут таксама ёсць «Зара-МАЛС», але яна прадстаўляе Дашхавуз, а не Луганск.

Лепшы снайпер першынства Сяргей Казанкоў з ТСХТ (Ашгабат) — зрэшты, добра вядомы аматарам футбола па гульнях у «Дняпры» і нікапольскім «Коласе»— у свае 35 гадоў лёгка «настукаў» 41 гол. У сярэднім у яго атрымалася недзе па 2 мячы за сустрэчу.

### ТАДЖЫКІСТАН

Тут ідзе вайна. І другі чэмпіянат, які павінен быў пачацца ў кастрычніку, не стартаваў. Тым часам душанбінскі «Памір» паціху развальваецца. Пачалася ўжо другая «хваля» эміграцыі. Вясною пайшлі самыя лепшыя, цяпер пакуюць валізкі проста лепшыя. Пяць чалавек вядуць перамовы з расійскімі клубамі, а некаторыя, як Георгій Тахохаў, адзін з лепшых бамбардзіраў—ён перабраўся ва Уладзікаўказ, —ужо знайшлі прытулак.

**На здымках:**

**◆ Цяпер гэта ігракі замежных зборных, а калісьці — адзінай каманды СССР.**

**◆ Беларускі легіянер Валерый Мельнікаў выконвае акрабатычны эцюд.**

# МІНСКІ МЕРЫДЫЯН

ЗАКОНЧЫЎСЯ СЕЗОН. Каманды пайшлі ў адпачынак з розным настроем. Той, хто добра «папрацаваў» восенню—адпачывае спакойна. Ну, а ў каго атрымалася «не вельмі»—пэўна, будуе планы выпраўлення дрэннага становішча. Зрэшты, давайце зазірнем у турнірныя табліцы і паглядзім, як выступалі мінскія каманды ў чэмпіянаце рэспублікі. Лічбы, думаецца, найбольш уражліва адлюстроўваюць танальнасць дасягнутага.

| | Г | В | Н | П | М | А | месца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 ЛІГА (17 КАМАНД) | | | | | | | |
| «Дынама» | 16 | 14 | 2 | 0 | 45— 8 | 30 | 1 |
| «Беларусь» | 16 | 10 | 3 | 3 | 27—12 | 23 | 2 |
| «Тарпеда» | 16 | 3 | 7 | 6 | 15—20 | 13 | 12 |
| II ЛІГА (16 КАМАНД) | | | | | | | |
| «Змена» | 15 | 8 | 3 | 4 | 22—22 | 19 | 5 |
| АФВІС-РШВСМ | 15 | 1 | 2 | 12 | 10—29 | 4 | 15 |
| III ЛІГА (16 КАМАНД) | | | | | | | |
| «Атака-407» | 15 | 7 | 1 | 7 | 22—24 | 15 | 8 |
| «Трактар» | 15 | 5 | 5 | 5 | 25—19 | 15 | 9 |
| «Метрабуд» | 15 | 2 | 2 | 11 | 14—36 | 6 | 15 |

Пэўна, вялікі каментарый тут не патрэбен. На «вяршыні»—«Дынама» і «Беларусь», якія на сёння мацнейшыя ў рэспубліцы. «Зваліліся» ў сераднячкі «Тарпеда», колішні лідэр і неаднаразовы прызёр першынстваў БССР. Праўда, дзеля справядлівасці адзначым, што такое становішча хвалюе і кіраўніцтва клуба, і трэнераў. Пра гэта сведчаць і кадравыя перастаноўкі. Яшчэ напрыканцы першага круга з'явіўся ў «Тарпеда» вопытны варатар Алег Сыраквашка, а цяпер, як сцвярджаюць кіраўнікі, далі станоўчы адказ на запрашэнне добра ўсім вядомыя Ігар Гурыновіч і Павел Раднёнак (да нядаўняга часу «зараблялі на хлеб» у «Верасе» з Роўна); Аляксандр Багайчук і Уладзімір Нявінскі—былыя мінчане, апошні сезон праводзілі ў брэсцкім «Дынама»; Уладзімір Канавалаў, форвард рэчыцкага «Ведрыча», на якога «паглядвалі» ў свой час і мінскія дынамаўцы; Сяргей Федаровіч у свой час гуляў за дубль нашага «Дынама», а мінулы сезон правёў у ціраспальскім «Цілігуле»; Сяргею Волкаву—27 і не адзін год гуляў ён у талінскім «Спорце», цяпер «папрасіўся» ў Мінск. Вядуцца перамовы з цэлым шэрагам ігракоў, сярод якіх Кірыл Савосцікаў, Віктар Кукар з бабруйскага «Трактара».

У цяжкім становішчы ў сваіх лігах студэнты Акадэміі фізвыхавання і метрабудаўцы. І калі першыя ўпэўнены, што па вясне будуць выглядаць больш упэўнена—першакурснікі, што абараняюць гонар клуба, узмужнеюць, набяруцца вопыту, то ў будаўнікоў метро—іншыя праблемы. Дарэчы, гонар «Метрабуда» абараняў адзін з лаўрэатаў футбольнага конкурсу «ДВ»—Ігар Шынкевіч.

**ФІНІШАВАЎ І ЧЭМПІЯНАТ ГОРАДА.** Вось яго вынікі:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| «Сігнал» | 22 | 17 | 4 | 1 | 53—17 | 38 |
| «Прамень» | 22 | 14 | 5 | 3 | 45—18 | 33 |
| «Арбіта» | 22 | 14 | 2 | 6 | 47—19 | 30 |
| «Падшыпнік» | 22 | 12 | 2 | 8 | 43—25 | 26 |
| «Таксіст» | 22 | 12 | 2 | 8 | 35—30 | 26 |
| «Вымпел» | 22 | 11 | 4 | 7 | 37—21 | 26 |
| «Аэрафлот» | 22 | 7 | 8 | 7 | 27—30 | 22 |
| «Тэкстыльшчык» | 22 | 7 | 4 | 11 | 29—42 | 18 |

Вялікай нечаканасцю спецыялісты лічаць перамогу каманды НВА «Сігнал», бо значна прыбавілі на фінішы калектывы гадзіннікавага завода («Прамень») і НВА «Інтэграл» («Арбіта»). Зрэшты, гэта зразумела, бо, «зняўшыся» з рэспубліканскага першынства, яны, безумоўна, разлічвалі на поспех у гарадскіх спаборніцтвах.

**І літаральна некалькі радкоў пра жаночы футбол.** Мінская каманда «Электроніка», як мы паведамлялі, выйшла ў фінал розыгрышу Кубка рэспублікі. Але, як і чакалася, чэмпіён Беларусі магілёўская «Надзея» перамагла. Праўда, трэба адзначыць, што, нягледзячы на нечаканыя страты, — адсутнасць шэрагу вядучых ігракоў—мінчанкі выглядалі прыстойна. І хаця прайгралі з лікам 0:5, усё ж пакінулі добрае ўражанне сваім настроем на барацьбу, жаданнем змагацца да апошняга.

Адзначым, што ў каманды нарэшце з'явіліся добрыя спонсары, і нават ёсць надзея пераводу калектыву на прафесійныя «рэйкі».

І апошнюю навіну прывёз з Акапулька, дзе сустракаліся кіраўнікі Нацыянальных алімпійскіх камітэтаў, старшыня НАКа Беларусі Уладзімір Рыжанкоў. Там прапанавана, як ён паведаміў, уключыць жаночы футбол у праграму Алімпіяды 1996 года.

ВАЛЕР САНЬКО

## „ЧОРНЫ ЛОТАС": сумненні, надзеі, няве'рэ

**(Працяг. Пачатак у №№ 217—220, 222—224).**

— Я бяруся за ўсе хваробы. Не магу людзям адмовіць. Потым ужо скажу, змагу лячыць ці не,—С. В. Раеўскі адчувае недаказанасць, тонка папраўляецца,—калі хворыя выконваюць усе мае назначэнні, аблёгка будзе. Кожнаму.

Аблёгка і вылечванне—розныя рэчы. Зняверанага ва ўрачах чалавека, як аўтара ў рэдакцыі, такому лекару можна ганяць бясконца. Дык ёсць жа істотная розніца: за навуку з аўтара ў рэдакцыі нічога не бяруць, нават яму плацяць, калі дацягне твор. А хворага, па амерыканскай методзе, можна заганяць па аналізах і наведваннях да разарэння.

Калі ўлічыць першае яраснае грошазаграбальніцтва навaўтвораных і навапрысвечаных, то, думаецца, ніводзін з пацыентаў масквіча Раеўскага (прапіскі ў Мінску ў хлопца няма) не ўкладзецца ў два—тры візіты. Спатрэбіцца значна болей.

— Людзі ідуць самі, просяць,—закругляе размову С. В. Раеўскі.

Пра няўдачныя зыходы лячэння размова не атрымліваецца зусім. Такіх выпадкаў няма. Ён абяцае даць тэлефоны людзей, якія адзываюцца пра яго работы выключна станоўча. (Не даў, як і не далі для выдання рукапіс). Хаця любы доктар не баіцца гаворыць пра свае памылкі і балюча за іх перажывае.

— Хлусяць, самазванцы, усе хлусяць,—нервова гаворыць мне Н. М. Булычова.—Перабольшваюць.

Ведаю гэта і сам. Ліцэнзіі ў іх не было і ў чэрвені. У музеі Янкі Купалы пра ніякі дагавор на арэнду намеснік дырэктара музея В. В. Поветкін (сам настойваў, Поветкин) нічога не ведае і блізка. У падатковай інспекцыі пра С. В. Раеўскага і яго памочнікаў, у тым ліку стажора М. З. Багуслаўскага, увогуле не чулі ў той час.

Яны паводзяць сябе, як часовыя арандатары. Хапнуць, хапнуць паболей і хутчэй. А там можна і зматаць вудачкі. Тым болей, што С. В. Раеўскі не тоіць мары ўжо сёлета паехаць у Цібет. Па які абмен вопыту за два месяцы двойчы ездзіў ён у Польшчу, вядома, не мая справа.

Як і не мая справа цікавіцца пра мэту намеркаванай паездкі ў Цібет. Адказ напрошваецца сам сабою. Па тэарэтычнае ўзбагачэнне, па кансультацыі, як у славянства, чужародную цібецтву зямлю, укараняць вучэнне «Чорнага лотаса» і іншыя. Як аб'ягорваць прэсу і купляць падкіх на сенсацыю безгаловікаў-журналістаў, якія бяруць інтэрв'ю і не разумеюць, што гэта ўскосная рэклама цемры.

Менавіта яны без спасцярожлівага зодуму памагаюць чужому павуцінню разлягацца на землях славянскіх. Ва ўласнай хаце.

Масквічы нарэшце разабраліся ў вартасцях Алана Чумака, прафесар Лебедзеў і многія іншыя медыкі актыўна выступалі па тэлебачанні. А ў нас?

Хто на Беларусі асмеліўся ўзважыць плюсы і мінусы ад лекцыяў Глобы, Кандыбы, Тарасава, Чумака, Джуны, Кашпіроўскага, так званага біблейскага прапаведніка Пітэра Юнгрэна, Лонга? Усе маўчаць, навукоўцы таксама.

А людзям ужо баліць, і моцна.

— Каб адразу зразумела чорналотасаўскую афералаўку, нізавошта дачку не павяла б да іх,—жаліцца Н. М. Булычова.— Не пасабілі ні грама.

У васьмігадовай Марыйкі Булычовай дзіцячы цэрэбральны параліч. Навошта за такія хворасці брацца самаўпэўненцам без медыцынскае практыкі?

Бяруцца. Эксплуатуюць мацярынскую прагу бачыць дзіця здаровым.

А ў выніку Наталля Міхайлаўна Булычова апрача патрачанага часу і грошай (сем разоў былі ў С. В. Раеўскага) накапіла раздражненне і гнеў на ўсіх. Медыкаў і немедыкаў.

Нагадаем казанае: асякуцца на сэансах чорналотасаўцаў, а лаяцьмуць дзяржаву, парадак.

Мне ўжо вядома некалькі адмоўных выпадкаў «лячэння» тэхнара С. В. Раеўскага. У чэрвені. Да зімы іх будзе болей.

— Чаму ніхто не скажа новаз'яўным лекарам, што трэба давесці да канца лячэнне аднаго хворага, а тады брацца за другога?—пытаю я ў В. Ц. Протчанка, загадчыцы паліклінікі № 11.—Навошта ім брацца за алергіі, лейкозы, псарыязы, ракі, калі заведама ясна—самадзейнікі бяссільныя?

Вольга Цярэнцьеўна далікатна абыходзіць складаныя пытанні. Яе захапляюць мануальныя здольнасці псіхатэрапеўта (ужо!) Раеўскага. Не важна, хто робіць, важны вынік. Не адмаўляецца, што сама памагае ім, што за працу ёй будуць плаціць. У чэрвені В. Ц. Протчанка напісала пісьмо ў мінскі гарадскі аддзел аховы здароўя. Прасіла выдаць ліцэнзію С. В. Раеўскаму на лячэнне людзей.

— Не выдзелілі б мы ім памяшканне, знайшлі б у другім месцы,—гаворыць В. Ц. Протчанка. Паўтарае словы «лекара» Раеўскага, што на яго працу ніхто не скардзіцца.

Гэта не так. За паўтара месяца іх лекавання мне ўжо вядома дзве скаргі. Гэта шмат. Асабліва калі ўлічыць спецыфіку лячэння. Мала хто захоча прызнацца ў асабістай грубай памылцы, пайшоў да тэхніка лячыцца. Сцерпіць, а не пажаліцца. Хіба дапячэ.

— Неўзабаве ад чорналотасаўцаў і памагатых мінчане закрычаць, як ад в'етнамцаў нядаўна: «Юстыцыя, памажы»,— гаворыць Д. М. Львова, старшы кансультант аддзела юстыцыі Мінскага гарвыканкама.

Мінусавых выпадкаў будзе шмат, не сумняваецца Дзіна Мікалаеўна:

— Не выцерпелі людзі і паскардзіліся на афералаўку в'етнамцаў. Іхнія спецыялісты прыпякалі кропкі палачкаю Цяо. Пра гэта пісалі нямала. Трыццаць шэсць чалавек летась напісалі нам. Ніводнаму не памагло. Ні-вод-на-му.

Магчыма, усё тлумачыцца проста: замежныя і нашыя граматныя безгаловікі забылі, а то і не разумеюць, што лекавы сродак, годны для аднаго рэгіёна, нельга бяздумна пераносіць у другі рэгіён. Вывучыць канстытуцыйныя асаблівасці цела, а значыць акупунктурныя кропкі, уздзеянне тых ці іншых лекаў і сродкаў менавіта ў гэтым рэгіёне—на ўсё гэта заезджым гастралёрам не стае часу.

Вось і асечкі. А кожная з іх—слёзы і перажыванні не чалавецтва, не хворых, а канкрэтных Іванаў і Марыляў, Любачкаў і Алёшкаў.

— Нельга было глядзець на хворых, ашуканых в'етнамскімі цяопалачнікамі. Дакуль усходняе шаманства будзе ў нас працвітаць, не ведаю. Тут не юрыстам разбірацца,—працягвае Д. М. Львова.

У супрацоўніка аддзела юстыцыі няма сумненняў, што чорналотасаўскія хворыя закончаць тым жа кленчам: юстыцыя, памажы!

Начальнік аддзела па агульных пытаннях пракуратуры Мінска М. А. Лявонаў той жа думкі:

— Калі ў каго лішняе, ідзе да чорналотасаўцаў, гаціць грошы—няхай. Не забароніш. Усё роўна ў бальніцу пасля пойдзе. Будзе лемантаваць: куды глядзіць пракурор? А што мы? Мы наглядаем законы і пастановы, а не ствараем іх. Няхай спецыялісты разбіраюцца.

### НАША ХАТА З КРАЮ

АМЕРЫКАНЦЫ вывучалі адносіны людзей да прымхаў і прыкметаў у трыццаці краінах. Ва ўсіх краінах абсалютна абыякавыя да іх... тры працэнты людзей.

Псіхічна і нервова хворых у грамадстве трошкі болей за тры працэнты. Напрошваецца паралель. Адны псіхічныя і нервовыя не вераць у прымхі і прыкметы. Нявер'е заганяе іх у хворасць?

Дзе ж вытокі нявер'я? Як накіраваць прагу чалавека да веры ў правільнае рэчышча, адрынуць яго ад ўсемагчымых наезджых навацыяў?

— Нявер'е пачынаецца ў сям'і, у бацькоў. Вырастаюць пустыя дзеткі. Без усялякае веры. Яны гатовы кінуцца на любую замежную тэорыю. Для іх ісціна не сваё, сапраўднае, народнае, а замежнае, далёкае: ануча, музыка, лекі,—гаворыць старшыня калгаса «Барацьба» Пухавіцкага раёна І. А. Макарэвіч, народны дэпутат Беларусі.

Іосіф Адамавіч, мудры чалавек, талковы гаспадарнік, не адрыньвае карыснае ў любым аздараўленстве. Не толькі на словах, а і на практыцы. У «Барацьбе», адной з нямногіх гаспадаркаў рэспублікі, працуе заезджы лекар. Лечыць біяполем, народнымі сродкамі.

— Наш аздараўляльнік не прыцягвае нязвычнае, нянашае. Таму да яго ідуць жыхары са ўсіх вёскаў,—працягвае І. А. Макарэвіч.—Не бярэцца за няможнае. Адпраўляе ў бальніцу. І не назначае ніякае платы. Ніякае.

**(Працяг будзе.).**

